ЯКУБ КОЛАС

# УСХОД СОНЦА

Вершы аб прыродзе






ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя дзіцячай літаратуры
Мінск—1948



# ВЯСНА

Вясна прыдзе, снег пагіне,
Вышэй сонца хадзіць стане,
Промень ясны ўсюды кіне,
Рунь падыме на паляне.

З гор пальюцца перавалы,
Раскуюцца рэчкі з шумам,
Выйдзе з хаты стар і малы
Гаманлівым дружным тлумам.

Убярэцца лес бязлісты
У гарнітур свой зялёны,
Шугне вырай галасісты,
Камары заб'юць у звоны.

Зашуміць трава густая,
Кветкі ў лузе засмяюцца.
Вясна прыдзе маладая,
Ўсюды песні панясуцца.

# ПЕСНЯ АБ ВЯСНЕ

Уцякай, мароз-дзядуля!
Чуеш ты, стары, ці не?
На пагорках булі-гулі!—
Песні чуюцца вясне.

Звоніць, скача, як дзіцятка,
Гэты жэўжык-ручаёк.
На яго, бы тая матка,
Сонца кідае свой зрок.

А ён, гучны і смяшлівы,
Так і ходзіць, аж дрыжыць,
І другі сябрук шчаслівы
Насустрэч яму бяжыць.

Ты паслухай, дзед сярдзіты,
Што там чуецца ўгары?
Што за спеў за самавіты
У небе правяць песняры?

А зіма аж пачарнела —
Годзе ёй тут кросны ткаць!..
Гэй, маленства, жыва, смела
Выйдзем весну прывітаць!

## ПЕРШЫ ГРОМ

Голасам моцы, ціха і важна
Гром пракаціўся ўгары.
Луг адазваўся грому працяжна,
Лес адгукнуўся стары.

Гай страсянуўся, дрыгнула поле,
Долы той гук панёслі.
Ў гэтым раскаце чуецца воля,
Чуецца радасць зямлі.

Ў грукаце гэтым многа ёсць сілы,
Чуецца моц і прастор...
Першыя громы! Сэрцу вы мілы,
Люб мне ваш смех паміж гор.

Міл майму сэрцу гоман далёкі,
Водгук вясёлы і шум.
Гром ты магутны, гром адзінокі!
Колькі ўскатурхаў ты дум!

## НА ПОЛІ ВЯСНОЮ

Люблю я прыволле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Ржаных каласоў.

Люблю я дарогі,
Што леглі між гор,
Ўнізе пад гарою
Ручча разгавор.

Люблю я узгоркі
І насып-курган,
І сіняй далечы
Празрысты туман...

Люблю пазіраць я
На поле вясной,
Як ветрык жартліва
Плыве збажыной.

Калышацца жыта,
Радамі бяжыць,
А хваля паветра
Дрыжыць і дрыжыць...

Люблю я прыволле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Буйных каласоў.

## РУЧЭЙ

Між алешын, кустоў,
Дзе пяе салавей,
І шуміць і грыміць
Срэбразвонны ручэй.

Як матулька, вярба
Хіліць голаў над ім.
І глядзяцца кусты
Пышным верхам сваім.

Абступаюць яго
Шаптуны-чараты,
І вяночкі яму
Выплятаюць кветы.

Часам зорка-дзяўча
Кіне вокам здалёк,
І хмурынка не раз
Зазірне ў ручаёк.

! схіляе трава
Над ім пасмы-брыжы.
А ён, жэўжык-пястун,
Гучным смехам дрыжыць.

То заскочыць у гай,
То курган абаўе,
Дзе сярдзіта бубніць,
Дзе лагодна пяе.

## УСХОД СОНЦА

На усходзе неба грае
Пераліўным блескам,
Сыпле золата над гаем
І над пералескам.

Чуць-чуць дрогне, праліецца
Чырвань на усходзе —
Гэта неба усміхнецца
Людзям і прыродзе.

Смех адказны, смех шчаслівы
Ходзіць на пагорках.
Час світання—час жычлівы...
Гаснуць, нікнуць зоркі.

Шырай, шырай, заранiца
Разнімае крылле,
Нібы пожар б'е крыніцай
Там, на небасхіле.

Сноп праменняў, пышна ўзняты,
Сее бляск — чырвонцы —
Гэта неба сцеле шаты
На дарогу сонцу.

Над палямі змрок прарваўся,
Па нізах расплыўся,
Лес туманам заснаваўся,
Луг расой абмыўся.

Агнявыя валаконцы
Ткуцца ў шоўк чырвоны —
Гэта хмаркі ладзяць сонцу
І дзяньку кароны.

Як прыемна пахне збожжа!
А вакол—спакойна!
Эх, як слаўна, як прыгожа,
Хараша, прыстойна!

І сабрала неба фарбы
Колераў дзівосных...
І дзе ёсць такія скарбы
Гожства, сугалосся?!



## ЛЕТАМ

Ну-ж і волі, волі
У гаі за вёскай!
А цяплынь, цяплынь!
Весела на полі,
Слаўна пад бярозкай,
Хоць ты сядзь спачынь.
Палюбуйся толькі —
Травы, што не збрысці,
Кветак не злічыць!
Гойдаюцца голькі,
А на гольках лісце
Сонцамі блішчыць.
Пчолкі, матылёчкі,
Як сняжынкі тыя,
Мільгацяць вакол.
Жоўтыя пясочкі —
Крупкі залатыя,
Хоць бяры ў прыпол!
Дык хіба ты ўседзіш
У такой раскошы

Сярод кветак, траў?
Што там згледзіў Федзя?
Што знайшоў Цімоша
І Дружка пазваў?
І ўсе яны трое
Збіліся маўкліва
Шчыльненька ў гурток.
«Ну, што там такое?
Ну, што там за дзіва?»
Думае Дружок.
Нават Коля з сеткай
Стаў, нібы на варту,
І глядзіць на іх.
А лявей над кветкай
Прысядае Марта,
Шчаслівей за ўсіх.
Між двух дрэў сястрычка
Брацíка за ручку
З кошыкам вядзе.
Мусіць, у сунічкі
Унь у тыя лукі
Брат з сястрой ідзе.
Добра Янку ў гаю,
Люба на паходзе
Пагуляць з кашом.
Толькі вось не знаю,
Куды-ж то Валодзя
Рушыў з малышом.
А малыш на плечы
Сеў, ды так забаўна,
І глядзіць арлом.
Добры дзень і вечар
Нашым дзецям слаўным!
Цешцеся жыццём!

## ЛЮБЛЮ Я ЛЕС...

Люблю я лес, адвечны бор,
Дзе ўзносяць хвоі ўгору шапкі,
Дзе рассцілаюць елі лапкі
І востры верх мкнуць у прастор.

Заўсёды ў лесе добра мне:
У ім так ціха, урачыста,
Калі прытоіцца ўсё чыста,
А ветрык нават не дыхне.

І дуб-крапак і куст малы
Стаяць у мудрым задуменні,
А сосны сочаць і струменяць
Густы, духмяны пах смалы.

Замлее лес—такая ціш,
І толькі пчолы струнным звонам
Гудуць працягла роўным тонам,
Ды прашмыгне лясная мыш.

А як прыгожы ў час вясны
Бярозак першыя уборы,
Калі яны на касагорах
У сонцы мараць свае сны!

Мне не забыць і тых часін,
Калі шумяць трывожна дрэвы,
А ў кожным дрэве свае спевы,
А ў хоры іх акорд адзін.

Сваю красу нясуць імхі,
Дзе многа рознай дробнай твары,
Дзе мурашы пасуць атары
Зялёнай тлі, як пастухі.

Хіба-ж не міл і час такі
На схіле лецейка, пад восень,
Калі на верасах між сосен
Пачнуць расці баравікі?

## НА ЛУЗЕ

Добра ў лузе ў час палудны!
Лёгка там дыхнуць!
Хмаркі белыя марудна
За лясы плывуць.

Ветрык краскі чуць калыша,
Травы шалясцяць,
Луг зялёны жыццем дыша —
Конікі трашчаць.

Ў лозах шчэбет не сціхае,
Шум стаіць і свіст,
Ў яркім бляску спачывае
На ракіце ліст.

Спевам-гоманам і звонам
Поўніцца ўвесь луг,
І дрыжыць над ім, зялёным,
Жыватворчы дух.

## У ПОЛІ

Грышка, хлопчык невялічкі,
Ў поле вышаў з дому,
Люба там каля крынічкі
Хлопчыку малому.
Ў гушчары кустоў зялёных
Многа розных пташак,
Кветак белых і чырвоных,
Мошачак, мурашак.
Сядзе хлопчык над крынічкай
І не зварухнецца:
Пазірае, як пад дзічкай
Пташачка снуецца
І сваіх маленькіх дзетак
Корміць чарвячкамі.
Эх, як слаўна сярод кветак
Летнімі дзянькамі.



## ДУБ

Сілачом стаіць
Дуб разложысты,
І здалёк відаць
Пышны верх яго.

А ўнізе пад ім
Нёман коціцца,
Срэбрам-стужкаю
Павіваецца.

У нагах трава
Нізка сцелецца,
А вакол ляжыць
Травяністы луг.

Ўглыб зямлі ўвайшлі
Карані яго.
Крэпка дуб стаіць,
Не варушыцца!

Так размашыста
Параскіданы
Ва ўсе стораны
Лапы крэпкія.

Камель — слуп-скала,
Дыша сілаю,
А ўгару зірнеш —
Шапка валіцца.

Дуж ты, дуб стары,
Сын вякоў сівых!
Многа бур ты знёс
На вяку сваім!

Налятаў віхор
З навальніцаю,
Ды не гнуўся ты
Перад бураю!..

Гэй ты, дуб стары,
Вартаўнік лугоў!
Аддае твой шум
Спевам-музыкай.

А пра што шуміш
І аб чым пяеш,
Пра то ведаюць
Ветры вольныя,

Што з табой вядуць
Мову сталую
Ў летні добры час
Або восенню.

Я падслухаю
Гэты шум лістоў,
А з іх гутаркі
Песня зложыцца.

## ЛЕС

Глуха шэпча лес зялёны
І шуміць ён і шуміць,
Гоман доўгі, нескančоны
Цэлы дзень над ім стаіць.

Перablытаны галіны
У адзін шалаш жывы...
Лес! аб чым шумяць вяршыны?
Лес! што шэпчаш, векавы?

Толькі-ж лес гудзе-ракоча
Цёмнай шапкаю вяршын,
Толькі-ж лес сказаць не хоча
То, што знае ён адзін.

## ДРОНІК

Гора-ліха па лесе брыло
У нядобрай прыгодзе:
Моцна дроздзіку нехта крыло
Пакалечыў, пашкодзіў.

І не можа цяпер небарак
На галінку ўзляцеці.
Хіба можна яго кінуць так
Марна гінуць на свеце?

Зловіць воўк яго, цапне лісок
Ці сабака злы гончы!
Ён забіўся ў густы верасок,
Каб жыццё там закончыць.

Шкода стала Міхасю да слёз,
Чуць па ім не заплакаў.
З лесу дроздзіка ў хату прынёс—
Палячыць небараку.

Пасадзіў у пачэсны куток
На шырокім услоне.
«Ты не бойся, мой дроздзік-браток!»
І назваў яго «Дронік».

І хадзіў і лячыў ён яго,
Даглядаў, ну, як брата.

Ягад, хлеба яму і ўсяго
Зносіў шчодра, багата.

Нават хатку зрабіў ён яму
З вераска, голек, моху.
Але Дронік памёр пад зіму.
Бедаваў Міхась, вохаў.

Збудаваў ён з фанеры труну
І злажыў яму вершы:
«Бедны Дронік навекі заснуў.
Спі, без часу памершы!»

І насыпаў курган пад акном,
Напісаў яшчэ гэтак:
«Спачывай-жа спакойным тут сном
У садку сярод кветак».



## РЫБАКІ

Закідаюць хлопцы вуды,
Хто на хлеб, на чарвяка,
Не глядзіць ніхто нікуды,
Воч не зводзяць з паплаўка.
І хвалююцца нямала
Нашы хлопцы-рыбакі,—
Чуць-чуць рыбка заклявала
І заскачуць паплаўкі.
Тут патрэбны спрыт, снароўка
І характар клёву знаць,
Трэба ўмець у час і лоўка
Рыбку хітрую падцяць.



## У ЛЕСЕ

Расступіўся лес
Ды на ўсе бакі,
А на пасеках
Ух, прастор які!
А трава, трава!
А кусты, кусты!
А навокал хмыз
Ды густы, густы.
А па купінках
Каля пнёў, лам'я
Чырвань спелая,
Тых суніц сям'я.
Сакавітыя,
Як налітыя,
Ды ўсё ладныя,
Ды панадныя.
У паветры пах
Ад іх носіцца,
Сама ягада
У рот просіцца.

# НОЧ

Што за ноч! што за ціш!
Змоўклі травы, краскі.
Усплыў месячык на ўзвыш
Баяць свету казкі.

Неба слухае той сказ,
Хмаркі не схіснуцца,
Толькі зоркі раз-па-раз
Ціха усміхнуцца.

Каб сказальніка свайго
Пахваліць, як трэба,
Нават знічкі ў чэсць яго
Асвятляюць неба.

А ён, смутны вартаўнік
Цёмных шатаў ночы,
Засароміўся, і знік
Бляск яго сірочы.



## ЧЫГУНКА

Ў два рады між палёў
Роўна рэйкі ляглі,
Рэжуць нетры лясоў,
Точаць грудзі зямлі.

Дзе стралою ляцяць,
А дзе дужкай бягуць,
Цераз горы і гладзь,
Смела рэчкі сякуць.

Эх, і быстры-ж той гон!
Толькі пыхкае дым.
За вагонам вагон
Мчыцца змеем ліхім.

Мчыцца ўночку і ўдзень,
Толькі поле дрыжыць.
Так ні конь, ні алень,
Ні арол не ляціць.

## ВЫСОКІ БЕРАГ

Высокі Бераг, родны, мілы!
Люблю я твой пясчаны скат
І хвоек нізкіх гурт пахілы,
Капцоў гранічных цэлы рад.

Люблю той лес, што над табою
Высока ўзняў свае камлі,
Яго-ж карэнні над вадою
Нібы вянок табе сплялі...

Струменіць Нёман срэбраводны
У тваіх прыўдалых берагах,
А ў лозах ветрык вее згодны,
І ходзіць шум па чаратах.

Высокі Бераг, кут мой мілы!
Люблю я жоўць тваіх пяскоў,
Разложных хвоек гурт пахілы
І ціхі гоман лазнякоў.

## КАНЕЦ ЛЕТА

Лецейка ты, лета,
Гучна песня спета,
Весела было.
Бралі поўнай чарай
Шчодрасць тваю, дары —
Сонца і святло.
Цешыла ты дзетак
Ды ласкава гэтак —
Матчынай рукой,
Воляй маладою,
Цёплаю вадою,
Чыстаю ракой,
Полем і лясамі,
Спевам-галасамі
Ясных дзён тваіх.
Мыла іх расою,
Сонцавай касою
Уцірала іх.
Чарай асалоду
Чэрпалі, як воду,
Поўнаю за край.
Залатое лета,
Дык прымі-ж за гэта
Шчырае «бывай!»

## ГУСІ

Ґусі, гусі, вырай вольны!
Сумен крык ваш, гусі,
Леціцё вы ў свет раздольны
З нашай Белай Русі.

Засмуткуюць зноў балоты
Без вас, госці лета,
Занудзяцца, як сіроты,
Лозы там да свету.

Бабыль-вецер на світанні
Пойдзе ў свет шырокі,
Пойдзе ў злосці, буркатанні
Аглядаць валокі.

А вы, гусі, пад аблокі
Крыллямі ўзмахнеце,
Каб не бачыць, як асокі
Гне і ломіць вецер.

Што-ж? ляціце — для свабоды
Вам і крыллі служаць...
Толькі-ж шкода чагось, шкода —
Па вас далі тужаць.

І гаруе сіратлівы
Ў чырвань лес адзеты...
Ой вы, гусі! панязлі вы
За сабою лета!



## ЗІМА

Надышлі марозы,
Рэчкі закавалі,
Белыя бярозы
Шэранем убралі.
   Замялі дарогі
   Ветрыкі снягамі.
   Лес, як дзед убогі,
   З доўгімі вусамі,
Апусціў галіны
І стаіць журботна,
Зрэдку верхавіны
Зашумяць маркотна.
   Мяккая пярына
   Вочы адбірае.
   Белая раўніна —
   Ні канца, ні краю.

Пад плёнкай белай
Травы і лісточкі.
Рэчка анямела,
Змоўклі ручаёчкі.
  Амярцвелі лозы,
  Чуць галлём хістаюць.
  А ў палях марозы
  Ды вятры гуляюць.

## ПЕСНІ ЗІМЫ

Люблю я зімы з маразамі,
Завеі белыя ў палях
І снегу скрып пад палазамі,
І ціш зімовую ў лясах.

Люблю я ветру спеў гаротны
Ў сялянскіх комінах пустых,
На полі белыя палотны —
Абрусы хмарак снегавых,

Што засцілаюць лугавіны
І далі ціхія палёў.
Мне любы елкі і хваіны
Пад белай посцілкай снягоў.

У гэтых з'явішчах свабодных,
У тых малюнках халадоў
Так многа песень, сэрцу родных,
Адбіткаў мілых мне гадоў.

## ДЗЕД-ГОСЦЬ

Ходзіць дзед белабароды
Полем, лесам, пералескам,
Засцілае рэчкі лёдам,
Брыльянцістым снежным блескам.

Сыпле іней на бярозы,
Туліць дрэвы лёгкім пухам,
Крые руні, травы, лозы
Белай воўнаю—кажухам.

Дзеда ўсюды носяць ногі.
І к нам прыдзе на хвілінку
Адпачыць крыху з дарогі,
Важна сеўшы на ялінку.

А ялінка! Чаго толькі
На яе няма галінках!
Свецяць зоркі і вясёлкі
У бліскучых павуцінках.

Тут лісічка, зайчык, мышкі,
Рыбкі, буслік доўгавязы.
А як ззяюць на ёй шышкі,
Нібы ў іх гараць алмазы.

Каля ёлкі хараводы,
Песні, гутарка жывая,
А той дзед белабароды
Толькі ў вусы смех пускае.

Дык рассунем кола шырай,
Патанцуем на памосце,
Песняй звонкай, песняй шчырай
Прывітаем дзеда-госця.

## У ЗІМОВЫ ЧАС

Загудуць вятры у полі,
Загалосяць, зашумяць,
Белым пылам задымяць
Ды засцелюць гоні-ролі,
Каб у холадзе-няволі
Рунь зялёную прымяць.

Ноч распусціць хмары-косы,
Лён-кудзелю распляце,
Сядзе важна у куце,
А мароз белавалосы
Пойдзе ўсюды на ачосы
У лядзяным халаце.

І падымецца тлум дзікі,
Загудуць кусты, лясы
На ўсе тоны-галасы.
Самі з'явяцца музыкі,
Баль наладзіцца вялікі,
Снег пасцеле абрусы.

## НА РЭЧЦЫ ЗІМОЮ

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку малому:
Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому...

Хочацца Алесю
Выйсці на двор з хаты,
Ўзяць з сабой сякерку —
Ды ў той лес кашлаты,

Стукнуць па дзярвяках
З-за пляча абухам
І глядзець, як сыпле
Снег халодным пухам;

Як стаяць над рэчкай
Хвоі і яліны,
Як ім снег халодны
Нахіліў галіны.

— Мамачка-галубка! —
Просіць ён так міла: —
Можа-б ты на рэчку
Пагуляць пусціла?

Я не буду доўга,
Зараз-жа вярнуся,

Трошачкі на рэчцы
Ў санках паважуся.

— Ну, ідзі пабегай,
Толькі апраніся
Ды, глядзі, ў палонку,
Сынку, не ўваліся.

Радасць і раздолле
Хлопчыку малому,
І не пазайздросціць
Ён цяпер нікому!

На плячо — сякерку,
Саначкі — у руку,
Хлеба ўзяў кусочак.
— Цюцік! — свіснуў Жуку.

Пад скарынкай лёду
Тут-жа, каля хаты,
Працякала рэчка
Скрозь лясныя шаты.

Побач той рачулкі
Кучы буралому,
І застыла рэчка
Мёртва, нерухома.

Моцна яе грудзі
Маразамі скуты,
І аковы лёду
Сярод рэчкі ўздуты.

Ціснецца вадзіца,
Не знаходзіць ходу
І не мае сілы
Скінуць глызы лёду.

На рачулцы ў лесе
Меў Алесь забаву.
Ну-ж і пацяшаўся
Хлопчык тут на славу!

— Эх ты, лёд-гвалтоўнік!
Што ты вытвараеш?
Ты нашто вадзіцу
Крыўдзіш і ўшчуваеш?

Бедненькай, ёй цёмна,
Цесна пад табою.
Хай-жа пагамоніць
Мілая са мною!

Дам ёй ход, галубцы,
Каб на свет зірнула! —
І яго сякерка
Спрытна секанула.

Звякае тапорык,
Глуха стук нясецца.
Раптам клуб вадзіцы
З-пада дна ўзаўецца.

Коціць поўзверх лёду,
Іней падымае
Ды такую-ж казку,
Байку хлопцу бае!

Слухае хлапчынка
Гэты сказ нязнаны,
Спеў, нікім ад веку
У лесе нечуваны.

То яму здаецца
Дудак хор далёкі,

То птушыны ў небе
Голас адзінокі.

На душы так ціха,
Ціха і нейк млосна,
І спявае ў сэрцы
Спеў той сугалосна.

Гэты спеў дзівосны
Чары навявае
І такія казкі
Слаўныя складае!

І ад гэтай песні
Вее дабратою,
Радасцю і шчасцем,
Мілаю вясною.

Ад той песні-казкі
Цяжка адарвацца,
І ёй струны сэрца
Хочуць адклікацца.

## ЧАКАННЕ ВЯСНЫ

Мароз, зіма,
Снягі вакол,
І спіць трава,
Пад снегам дол.

Мяцеліца,
Вятры гудуць,
Дубы ў лугах
Шумяць, равуць.

Ці скора-ж ты,
Жаданы час
Вясны-красы,
Ідзеш да нас?

Ідзі, згані
Снягі з палёў
І выведзі
Ваду з акоў.

Акрый лугі,
Адзень лясы,
На руні кінь
Крышталь расы.

Сагрэй ты нас,
Цяплом абвей...
Ідзі, вясна,
Ідзі скарэй!

## ЗМЕСТ

Рэдактар *М. Гамолка*
Тэхрэдактар *Я. Карпіновіч*
Карэктар *П. Галубцова*

АТ 01741 Падпісана да друку 26/VI-48 г. Тыраж 15000 экз.
Папера 70×92/16. Друк. арк. 2¾+3 уклейкі. Заказ 90.

Друкарня ім. Сталіна, Мінск, Пушкіна 55.

